# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

Орган ЦКЛКСМБ



Звезда
Полымя
Маладняк
Заря Запада
Савецкая Беларусь
Беларуская вёска
Красный пограничник
Газета Войск О. Г. П. У. Запокруга
Gwiazda Młodzieży
Камуніст
Беларускі піонэр
Маладыя араты
ЦКЛКСМБ
Профэсыянальны рух Беларусі
Профессиональное движение Белоруссии
Ruch zawodowy na Białorusi
Савецкая вёска
Орган Мазырскага Акружкому К П (б) Б і Выканаўчага Камітэту Саветаў
Чырвоная змена
Маладыя камуністы
Комуністычны шлях
Вясковая камсамолія

№ 9 (27)



1926 г.

# Комсамольскі друк Савецкай Беларусі

**(Артыкул Загадчыка Аддзелу Друку ЦК ЛКСМБ)**

Друк комсамолу Беларусі, прызваны быць аружжам комуністычнай апрацоўкі шырокіх мас рабоча-сялянскай моладзі, у нашых умовах мае свае асобныя задачы.

Ён павінен абслугоўваць групы моладзі розных нацыянальнасьцяй, далучыць іх да эканомічнага і культурнага будаўніцтва Беларусі.

У гэтым сэнсе за апошнія часы наш друк дасягнуў шмат чаго Мы маем сем пэрыодычных друкаваных выданьняў, абслугоўваючых беларускую, яўрэйскую і польскую моладзь, а таксама і піонэраў. Кожнае з нашых выданьняў за апошні год мае дасягненьні ў адносінах прыстасаваньня да абслугоўваемай ім моладзі, ва ўзросьце тыражу, у некаторым якасным палепшаньні. Карысна будзе, калі зробім маленькі агляд нашых выданьняў з мэтай азнаямленьня шырокіх кол моладзі з сучасным становішчам комсамольскага друку Савецкай Беларусі.

**„Чырвоная Зьмена“.**

зьяўляецца асноўным кіраўнічым органам Цэнтральнага Камітэту ЛКСМБ. Абслугоўвае рабоча-сялянскую моладзь. Выдаецца на расійскай і беларускай мовах. Выходзіць 3 разы на тыдзень з тыражом—10.500 экзэмпляраў. „Чырвоная Зьмена“ павінна стаць яшчэ больш пашыранай таму, што яна разьлічана на пераважную большасьць комсамольскай організацыі, часьцей выходзіць, больш поўна асьвятляе асноўныя пытаньні бягучага пэрыоду. Трэба зазначыць надалей, што задачы прыбліжэньня беларускай мовы і яе ўсваеньня масамі моладзі павінна дапамагаць „Чырвоная Зьмена“, зьмяшчаючы частку матэрыялу на зразумелай, папулярнай беларускай мове, да таго—граматна.

**„Юнгер Арбэйтэр“.**

Масавая яўрэйская газэта для рабочай моладзі. Выходзіць штотыднёвікам, з тыражом у 2.900 экз. У нашых умовах, пры наліччы значнай колькасьці яўрэйскай рабочай моладзі, газэта мае вялікае значэньне, і трэба сказаць да яе гонару, што яе кахае рабочая моладзь. Але нашыя організацыі мала зрабілі, каб пашырыць яе ў гушчах моладзі. Пры наліччы ў Беларусі вялікай колькасьці рабочай і кустарнай моладзі, якая не ахоплена комсамолам, „Юнгер Арбэйтэр“ павінен стаць аружжам нашага ўплыву і абхопу мас нез'організаванай моладзі.

**„Малады Араты“.**

Двухтыднёвая масавая часопісь сялянскай моладзі на беларускай мове. Тыраж дасягае да 1.500 экз. У нашай сялянскай краіне гэтая часопісь павінна была-б, здаецца, быць самай пашыранай, на справе якраз не. Часопісь не ў дастатачнай меры прасунута ў масы. Сялянская моладзь часамі і ня ведае пра яе існаваньне. *Трэба адзначыць, што часопісь ступіла на правільны шлях, улічае запросы, дае жывы, лёгказразумелы матэрыял.*

**„Гвязда Млодзежы“.**

З разгортваньнем працы сярод польскай моладзі значнасьць газэты павялічваецца. З гэтай мэтай газэта пачала выходзіць штотыднёвікам. Пры ўсёй цяжкасьці працы сярод польскай моладзі—газэта выконвае вялікую працу.

**„Маладняк“.**

Вялікая грамадзка-політычная і літаратурна-мастацкая часопісь, прызначаная для больш падрыхтаванай часткі моладзі і маладой інтэлігенцыі. Часопісь павінна будзе больш чутка выявіць свой грамадзка-політычны твар. Пры зьмяшчэньні матэрыялаў трэба будзе больш прыслухоўвацца да запросаў чытача.

**„Беларускі піонэр“.**

Часопісь для дарослай часткі піонэраў і дзяцей. За апошнія часы, у адносінах надворнага выгляду і зьместу мае вялікія дасягненьні. Трэба будзе надалей кіраўнічы піонэрскі матэрыял даваць у больш лёгкім, зразумелым дзяцьмі выглядзе.

**„Дэр юнер піонэр“.**

Яўрэйская піонэрская газэтка. За апошні час значна сягнула наперад—з 2.000 экз. тыраж узрос да 3.500. Газэтка крок за крокам заваёўвае ўсё большыя сымпатыі сярод яўрэйскіх дзяцей-піонэраў і вучняў.

**Насьценныя комсамольскія газэты.**

Яны налічваюцца соткамі на Беларусі. У гарадох большая частка ячэек удзельнічае ў агульнай насьценнай газэце, у вёсцы-ж большасьць ячэек выдаюць свае комсамольскія газэты. На выстаўках насьценных газэт у Менскай акрузе мы ўпэўніліся, што ячэйкавая насьценная газэта адыгрывае вялікую грамадзую ролю ў вёсцы. Яна жвава адгукваецца на істотныя патрэбы сялянства. Але значнасьці гэтай справы ячэйкі яшчэ да гэтага часу ў поўнай меры не ўявілі.

**Пра юнкораўскую армію.**

Вялікім недахопам у нашым друку зьяўляецца слабая праца з юнкорамі. Наш пэрыодычны друк і насьценныя газэты здолелі аб'яднаць вакол сябе вялікі лік юнкораў, але дагэтуль ня здолелі іх у поўнай меры замацаваць за сабою. Роля юнкораў, асабліва ў вёсцы,—значная ў вочавідкі. У гэтым нас упэўняюць факты перасьледваньняў юнкораў з боку кулацкіх элемэнтаў і іх падсобнікаў у вёсцы. І ЦК ЛКСМБ у сваёй рэзолюцыі аб юнкораўскім руху даў ясную прапанову ўсім організацыям Беларусі аб працы сярод юнкораў.

**З. Давідовіч.**

МАЛАДЫ АРАТЫ
ОРГАН Ц.К.Л.К.С.М.Б.
ДВУХТЫДНЕВАЯ ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 9 | Май 1926 г. | Менск



# Гаворка ноччу ў дарозе

— Тпр-р-р!..

— Што там?

— Гужы ад'ехалі.

— Чаго-ж яны?

— Хамуціна лопнула.

— Ну?

— Яйправа. Як выяжджалі, дык, ліха ёй, тады ўжо ледзьве ліпела... Тпр-р-р, ня ўстоіш!.. На, патрымай лейцы, а я зьлезу папраўлю... Няхай яна згарыць нечага, гэтакая работа; дзе коратка, там і рвецца... Жывот баліць...

— Дык чаго-ж ты палез, калі табе жывот баліць, то йдзі сядзь, я папраўлю.

— От, я й сам папраўлю; жывот ужо, можна сказаць, перабалеў, пакідае ўжо.

— То гэта табе ён увесь час балеў, а ты сядзеў ды маўчаў!..

— А што я крычаць на ўвесь гэты лес павінен, ці што?

— То хоць-бы мне сказаў?

— Ну то што ты мне паможаш! Што ты—доктар?! Тут і доктар, каб прышлося, пакуль рады дасьць, дык голаў скруціць.

— Чаму?

— А таму, што ён у мяне, гэты жывот, вельмі-ж сіберна сарваны.

— То ён у цябе сарваны?

— А ты думаў які!? Сарваны!

— Як-жа ты яго сарваў?

— От дзіва ўгледзеў, што чалавек жывот сарваў. Ці гэта, я-ж кажу, дзіва?! Як новыя падрубы ў сваю старую хату падкладаў, дык бервяно падняў—от табе і ўся музыка.

— Як-жа ты робіш?

— Рабл-лю, уг-га! Калі з раз на тыдзень або два й пакачаюся жыватом, дык нічога-ж чалавек не парадзіш. Натое ён сарваны, каб з ім качацца. А раблю—дык ручнікам перавяжу яго, перацісну, дык ён і нічога... Тпр-р-р!.. Мухі-ж, здаецца, не сякуць, што ўстаяць, падла, ня можаш; дай хамуціну перакруцiць!.. Дык так і раблю. А калі, бывае, зьем што-небудзь цяжкае, дык тады, праўда, калі схваціць ён мяне, гэты самы жывот, дык, здаецца, на сьвеце ня жыў-бы. Енчыш-енчыш, качаешся-качаешся, няма горшае пакуты, няхай яно нікому добраму. Каб тады, здаецца, хто сказаў: „От табе сьмерць“—дык падзякаваў-бы яму за гэта: так пакутаваць даводзіцца.

— Ты дурны, я табе скажу.

— Чаму?

— Яшчэ й чаму! Таму, што дактары цяпер табе гэты твой жывот так могуць вырабіць, што не пазнаеш—той гэта самы жывот, што мучыў цябе, ці другі; ніколі ён не забаліць тады табе, як бык будзеш здароў.

— Я гэта ведаю й без цябе, што ты мне гаворыш.

— Ну дык чаго-ж ты?

— Чаго?

— У больніцу чаму, кажу, не кладзешся?

— Баюся.

— Чаго ты баішся?

— Страшна нек, ліха на яго. А як ня вытрымаю гэтае рапарацыі?

— От дурны! То кажа, калі схваціць, дык усякаму за сьмерць падзякаваў-бы, а гэта баіцца, калі яго будуць правіць.

— Мала што тады кажаш. Гэта толькі кажаш. Што ў сьвеце лепш за жыцьцё? Чым ты яго падменіш?

— Здаровы жывот—гэта-ж жыцьцё!

— Я ведаю й без цябе. Каму ты гаворыш!

— Ну дык чаго-ж ты?

— Нічога, а толькі вось страшна. Ну, а што, калі яны мяне зарэжуць, рапарацу робячы. Тады што?



— У мяне, гэты жывот, вельмі-ж сіберна сарваны.

— Які цябе чорт зарэжа, цяпер нікога яшчэ не зарэзалі, гэтакія жываты, як у цябе, правячы.

— Але я цябе пытаю, як зарэжуць, тады што?

— Ну нічога, прыстаў, як смала. Калі зарэжуць, то будзеш зарэзаны. Але я табе кажу, што не зарэжуць, а жывот гэты твой зробяць, што будзе ня жывот, а лялька.

— Але як зарэжуць; няпрывычнае, браце, дзела, няхай яно згарыць!

— Хто цябе будзе рэзаць, дурны ты!

— Ну, добра, добра. Я-ж нічога... Пацягні к сабе правую ляйчыну.

— Ну!?

— О так, о!.. Туга ў цябе? А-а-ха-ха... Кхэ, кхэ!

Кашаль некі сіберны, нялюдзкі... Але-ж гужы дзёгцем у нос даюць—нядаўна я іх вымазаў... но, пашоў!..

— Чаго ты гэтак пагнаў зразу, дай хоць агледзецца, ці гэта гэтак ехаць? Даедзем да дня.

— Ды яно даедзем.

— І жывот некалі на мельку вырабіш... гы-гы-гы!..

— От табе сьмех, ліха ведае чаго.

— Ды мне ня сьмешна.

— То чаго ты рагочаш?

— А што, няможна парагатаць!? Ты, думаеш калі хто рагоча, дык гэта яму заўсёды сьмешна?!

— Но, малы! Эй, фюць!..

— Чаго ты гоніш гэтак, што мы не даедзем да дня, ці што!

— А чорт яго ведае. Вельмі-ж ня люблю язды гэтакае, калі конь ледзьве ногі перасоўвае. Усё роўна, як галодны ваду п'е.

— А чаго ляцець, канечне задраўшы хвост... Дай закурыць.

— На.

— Дажджы праходзяць. На аўсы, значыцца, ах... любата!..

— Но!..

Сарваны жывот быў гэта ў Анісіма Гаркавага і ехаў ён у горад цяпер пастарацца, каб аддалі яму назад чвэрць дзесяціны зямлі, якую ў яго пры перамеры неправілова, як ён лічыў, адрэзалі. Нядаўна ён купіў маладога каня і цяпер усё гнаў яго, каб той бег. Гэта патрэбна было перад Аўгустынам Зылінгаю, даўнейшым валасным пісарам, што ехаў з Анісімам. Сын яго, электратэхнік у дальнім горадзе, прыслаў ліст, што захварэў, і Аўгустын Зылінга пад'яжджаў цяпер у горад на станцыю чыгункі, каб выехаць да сына. Ён нейк быў упэўнены, што сын ачуняе, і ня было ў яго загэтым непакою і ехаў ён па другой прычыне. Цяпер ён управіўся з усякаю сваёю работаю і меў вольны час, а сын яго нядаўна ажаніўся і яму вельмі-ж хацелася паглядзець сынавае жонкі. Ён быў вясёлы і няпрыстойна падумваў часамі аб цяперашніх сынавых справах і аб яго жонцы.

Анісім таксама ня быў сумны. Ён цешыўся з свайго маладога каня і з ярыны, якая добра



Анісім таксама на быў сумны...

паўсходзіла. І ў абодвух іх пакрываліся гэтыя настроі ціхшу хмурнае веснавое ночы. Варушыліся ў іх кепска вызначаныя для думак жаданьні і патроху зьяўлялася лёгкасьць і шырыня думак.

Ехалі па лясной вільготнай і цёмнай дарозе. Драбіны падляталі ўгору на ламаччы й карэньнях і моцна пахла вясёлаю цьвільлю лясных размахаў...

**Кузьма Чорны.**

# Музыка жыцьця

Пачалося гэта з красавіка...

Тады разьліваласе сьлязьмі зіма, чарнелі стрэхі, каціліся па брудных вуліцах хвалі бурапеннай вады.

Сонца ўсё часьцей выглядала з-пад трусьлівых хмарак, сінелі празрыстыя далі...

Пачыналася звычайнае: Вясна ўпарта ламілася ў дзьверы жыцьця...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыехаў Антось, як гаварыў, з Табольску.

А ў нядзелю быў ужо на сходзе, у ячэйцы.

Нешта казаў... З жарам, упэўнена...

Супраць жаданьня, Ніна не магла адвесьці ад яго вачэй.

Успаміны плылі...

... Вось цяпер... Ён такі прыгожы... Загарэлы... А ўзрос як!

Ну, здаецца, учора разам бегалі на Сідаравым лузе, сядзелі каля Проні, пасьвілі за рэчкай скацінку...

Зараз-жа... Зусім мужчынай стаў!.. Бачыш.. З-пад бравеў—іскаркі як мігацяць!.. Цікавы...

Калі скончыўся даклад—пашлі дамоў удвох.

Само неяк вышла! Нечакана...

Дарогай Антось расказваў Ніне аб Сібіры, дзе правёў болей 4-х гадоў...

Аб тайзе, што гудзіць адвечным шумам, аб ружовых Манджурскіх сопках, добрых якутах...

Гаварыў, што жадае працы... Сапраўднай, шырокай і каб на роднай старонцы.

У Ніны—казыталася сэрца, нешта дарагое прылівала к грудзям і чамусьці дрыжэла рука на сагнутым локці Антося...

— Я таксама працую... У бюро ячэйкі... Са мной лічацца!.. Зараз я мацней яшчэ вазьмуся!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ой, і гарачы гэты „вішнёвы звон"! Калі маладасьць рвецца з цела, просіць бяскрайнай волі, калі ў жылах ня кроў, а бярозавік агнёвы пераліваецца і ў вачох разыходзяцца сінія, жоўтыя, чырвоныя пялёсткі...

А якія пекныя мясьціны ёсьць у Антосевым садку, пад расхістанымі ліпамі!

Шкада, што ня ведаеце!..

І кожны вечар віталі зорку вячэрнюю Ніна з Антосем, на зялёнай мураве, у моцных абнімках.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз месяц—па Кішчыцах валам кацілася вестка:

— У Антося Круглага шлюб новы будзе... Чырвоны, значыць... Не к дабру гэта...

У той дзень—сонца сьвяціла паасабістаму...

То зірне скоса, падмігне маладым, то прыпячэ ва ўсю Іванаўскую, не шкадуючы... І сьмеецца, апранаецца мільёнамі праменьняў. Залатых, яскравых...

Нараджалася новае жыцьцё...

**Юр. Лявонны.**

Магілеў.

# З НІЗКІ ВЕРШАЎ „ВЯСНА“

Максім Лужанін



## Звон вясны

Калі вечар разамлее
і расьсее белы сон,
буду рваць сабе лілеі,
акраплёныя расой.

У лазе шаўкова-ніцай
ды у полі за гарой—
там якаясь чараўніца
рассыпае серабро.

Песьня нікне у тумане,
у туманістых лагчынах,
я цябе даўно чакаю,
чорнабровая дзяўчына!

Ой, чырвоная хусьцінка!
Паясочак беларускі!
Гаварылі мне, дзяўчынка,
раздаеш ты шчасьце лустай.

Спавіюцца змрокам далі,
месяц зблытаецца ў лейцах.
А мы пойдзем. Нас гукалі—
сёньня будзе сход ячэйкі.

Па вячорнаму абрусу,
ў сіняй постаці туманаў
пойдзем, пойдзем лугам русым
праз бярэзьнік кучаравы.

І што вочы гаварылі,
расказаў у гэтай песьні,
маладосьці сьмех дарылі
сонца-белай перадвесьняй.

Як разыдуцца туманы
і асьвеціць просінь золак,
мільгане цень ночы зданьню
у празрыстасьць далі волкай.

Ці сустрэну я дзяўчыну
ды у вечар сінязорны?
І ці думкі адпачынуць
у жыцьцёва сьпелым моры?!

Будзе радасьць перацьветам
разварушваць думак вулей,
будзе вечар, будзе гэткі,
я спаткаю агнявую.

У лазе шаўкова-ніцай
ды у полі за гарой—
там якаясь чараўніца
рассыпае серабро.

Песьня нікне у тумане,
у туманістых лагчынах...
Я цябе даўно чакаю,
чорнабровая дзяўчына!



## Вясна

Хачу расьпець,
хачу разьліць
зялёны шум вясны
і нізкі кволыя
брусьніц
засыпаць сьмехам ніў.
Вясна пяе,
вясна ідзе
вясёлаю красуняй,
і беласонцы
звонкі дзень
у просіні красуе.
Зьвіняць сады,
пяюць лясы
у цьвецені гаі,
і кроплі
белае расы
ў туманах заляглі.
Нясуць крыніцы
свой прывет
бязьмежнасьці вясны,
і на зялёнай
мураве
шуршыць вясёлка ніў.

## Веснавое

Вечар водар вясновы разьліў,
распасьцёр кветак пахкі алей.
Адчыні мне абдымкі свае,
кучаравы, разложысты лес!

Я хачу патануць ў цішыні,
ў неабсяжным прасьцягу палей.
Адчыні мне абдымкі свае,
кучаравы, разложысты лес!

Я хачу, каб у грудзі мае
ліўся водар вальней і сьмялей,
адчыні мне абдымкі свае,
кучаравы, разложысты лес!

Вечар волкія далі паіў,
распасьцёр пахкіх кветак алей,
адчыні мне абдымкі свае,
кучаравы, разложысты лес!

* * *

Эх, вясна, залатыя пялёсткі,
ды вясёлкавай радасьці дзень,
малаком задыміліся вёскі,
ціхі сьмех прашуршаў па вадзе.

Цэлы сьвет, цэлы сьвет абняць
белай зьвеняй усьмешкай дня,
празьвінець на вясёлых палёх,
дзе быльнёг пачарнелы прылёг.

# БЫВАЕ ЗДАРЭНЬНЕ

*(Малюнак)*

Вялікдзень.

Радуецца поп Сяргей, будзе што ў кішэню палажыць. Кішэня-ж яго—а-яй! Ня толькі ўлезе гарнец самагонкі, але і сам самагоншчык бадай схавaецца. Масьляцца папа вочкі, пхае ён у кішэню ўсё, што даюць яму людзі набожныя...

Радуецца поп сьвяту. З самага раньня швэндаецца ён з хаты ў хату. „Вяліkдзень дае“.

— Хры-ы-стос ва-а-скрэсе-э з ме-э-рр-твых,—хрыпіць п'яным голасам поп: І су-у-шчых во-о гро-о-обех жывот да-а-раваў...—З гэтымі словамі ён уваліўся ў хату к кулаку Зьмітру.

— Дзень добры... ік... у хату... Ці да-а-зволіце... ік... ва-ам вяліkдзень даць?..

— Дык вяліkдзень, бацюшка, надышоў! Вось, не пазбаўце нас сваёй увагі,—прамовіла гаспадарыня,— сядайце, калі ласка...

— Але, але, сядайце, айцец Сяргей! Мы дзеля вас асобую чарачку прыгатавалі,—схамянуўся гаспадар, падносячы з самадавольнай усьмешкай кубак, які, прынамсі, шклянак са тры ў сабе зьмяшчае.

— Будзьце ласкавы, паспытайце гэтай вадзіцы,— заварушылася кабета:—прабачайце, што ўжо гэтак прынялі. Бачце, неспадзеўкі ўсё рабілася... Гаспадар мой недарэка, трохі прыпаліў, але ўжо прабачайце, бацюшка.

— Ні-і-і-чога!—сказаў поп, скасіўшы вока на пляшку:—не па-а-брэзгуем... і грузна апусьціўся на лаўку, каб прыняцца за „трапезу“.

Раптам пачуў ён, што нешта мокрае, ліпкае пацякло ў яго па сьцягну.

Што гэта?

І тут толькі ён сьцяміў, што кішэня з яйкамі схіснулася на бок і ён зьнянацку сеў на яе.

— Ух, маць тваю хрысьці!—злосна прабармытаў поп і падумаў: „І які-ж гэта дурань у вяліkдзень яйкі сырыя дае?! Вось як тут быць? Не сядзець-жа на гэтым праклятым месцы увесь дзень“ і, прыкрыўшы рукою пляму, нічога не гаворачы, пасунуўся на двор.

— Пачакайце, бацюшка! Куды-ж вы? Хіба дурна зрабілася?!—зьдзіўлена спытаўся гаспадар і, прыкмеціўшы, што чамусьці бацюшка трымаецца з-заду рукамі, прамовіў, як-бы сьцяміўшы прычыну:

— А-а-а-а! Ну дык ідзеце! Там, выходзячы на двор, направа. За пуняй...

З сорамам вышаў поп на двор.

Што рабіць? Ісьці дадому, ды не прыкрываючы плямы, сорамна. А яна ўселася вялікім кругам і навадзіла чалавека на няпрыемную думку.

Думаў поп. Няма ніякай рады.

— Хіба пазваць гаспадара?

— Э-э-э!—усьміхнуўся гаспадар:—дык вось яно што? Так, так... А я думаў... і, ня скончыўшы думку, пачырванеўшы, прамовіў:—Ну, гэта не бяда! Вы пайдзеце вунь у той пакойчык, покі мая Тадора ня вымые плямы і не прасушыць.

Сядзіць поп у маленькім пакойчыку у споднай бялізьне.

Гаспадар прынёс яму гарэлкі і закускі.

— Пеце, бацюшка, на здароўе,—пакланіўся гаспадар, вось вам і вятчынка, вось і піражкі. Уяўляйце сябе, як дома!

Айцец Сяргей матнуў, як асёл, галавой і, благаслаўляючы, сказаў:—От, дзе ёсьць ча-а-до сьмі-і-і рэннае! Старыцай табе бог ва-а-здасьць... ік... да бла-а-аславі іць бог во ца-а-рсьцьвіі... сва-а-ім.

У вапошніх словах пачаў блытацца і, бяспомацна схіліўшы голаў на грудзі, падставіў к губам Зьмітра тлустую руку.

— Ідзі, чадо... мае... кумпанію па-а-ця-а-шай...ік... ва імя... ва-аскрэсенія .. хры-ы-стова... А я тут... за цябе... богу... ік... па-а-а-амалюся...

Гаспадар вышаў.

„От дзе жыцьцё!“ падумаў пра сябе поп, прымаючыся за „працу“. І, напіўшыся да няпрытомнасьці, зусім забыўшы сваё становішча, вышаў, хістаючыся, на вуліцу.



Вясковыя хлапчукі бегалі кругом і крычалі.

— Унь, бацюшка ў нагавіцах!

— Палядзі, палядзі!

— А дзе яго спадніца?!..

— Хрысто-ос ва-а-аскрэсе-э,—мармытаў поп, благаслаўляючы дзяцей, якія, рагочучы, пазіралі на яго.

— Бацюшка, о бацюшка! Зайдзеце ў хату,—прасіў Васіль—барадаты мужык, цягаючы папа за руку. —Гэтак ня хораша! Бачце дзеці сьмяюцца!

— А вы, падшывальцы, вон адсюль! Марш па хатах!

— Хры-ы-ы-стос... ік... ва-аскрэ-э-се-э-э,—завадзіў поп.

---

Мужык вучыць папа. Ня трэба, ён і так разумны.

**Р. Камлыга і А. Ланіч.**



# ВЕРШЫ

**Сяргей Дарожны**

* * *

Дзесьці там, дзе сагнуліся сёлы
З сінявою кудлатаю сосен,
Я калісьці малым і вясёлым
Бегаў з песьнямі радасна—босы.
І любіў з галавой кучараваю
Загубіцца ў раздум'і палёў
Да падслухаць у шэлесьце траваў
Гэту простую радасьць бяз слоў.
А цяпер—адцьвіло, адзьвінела,
Што шумела калісьці ў вушох...
Парассыпалісь песень мяцелі,
І агнём залілася душа.
Ой, ты, мілае, сіняе поле!
Ці ў сьнягу твой залочаны цьвет?
Сёньня хочацца пець мне да болю,
Босых ног адшукаць лёгкі сьлед...
Я брыду па дарозе адзін,
Я брыду і вятром падпяваю.
А кругом толькі поле ды сінь
Заплятаецца ў золата гаю.
Чую шэпат сухога адчаю;
Прабягае вятрамі ў трысьці.
Паразьбегліся сьцежкі за гаем,
А куды, сам ня ведаю, йсьці?!
Пры дарозе укопаны кол,
На калу дзеравяная бірка;
І напісана шэраньню слоў,
Што усё гэта—голая лірыка.
Ах, дарожанькі, травы зялёныя,
Поля мілага сіняя даль!..
Пра цябе я пад золатам клёна,
Гэту лірыку ў песьні складаў.
І напеў рассыпаўся у рунях,
Звонам песень жніва абрастаў.
Ой, навошта замоўкнулі струны!
І настрой разьвясёлы растаў.
Як калісьці, сасонкі шумелі,
Над вазёрамі марыў туман.
Толькі месяца шэлест нясьмелы
Асядае ў маўклівую твань.
Хай у сэрцы кляновая восень...
Песень сыплецца бэзавы дым.
Ах ты, буйнасьць юнацтва босая!
Ах, у цьвецені белай сады!

8/IV—26 г. Менск.

## Вясковае

Разыгралася і радасьць спазаранку,
Загарэлася і чырвань небасхілаў,
Певень крыкнуў раньнюю каля ганку,
Раньне вёску сіньню ахапіла.
А па вёсцы зацьвіталі кветкі,
Зацьвіталі моладзьдзю бадзёрай,
Як на сьвята каля рэчкі ўлетку
Мільгацелі вопратак вузоры.
І расьлі, расьлі напевы,
Навіны мацнелі галасы,
Завялі шматпольле—пагушчэлі
На палёх радзімых каласы!

Гомельшчына. **М. Карпачоў.**

## Наша зьмена

У сіняй далі сонца села,
Ужо прамень апошні блудзіць,
Піонэраў раць запела,
Сьнеў прыгожы вёску будзіць.

У лясочку рэха ўторыць
І далёка льлецца, льлецца,
То прыемна штосьці творыць,
То заплача, засьмяецца.

Шнурам, стройнымі радамі
Йдуць, і ногі тахт раджаюць
І нястройна чарадамі
Іх грамады праваджаюць.

Глядзі—Лондон, Бэрлін, Вена,
Парыж, Варшава і Літва.
То-ж магутна наша зьмена,
Комсамолії братва.

**А. Куколь.**

## З маёвых напеваў

Пад журлівы напеў ручайкоў
І пад шолах ціхі таполяў
Я хадзіў сярод нашых лясоў,
Пасярод зачарованых гоняў...

Я хадзіў у гэты час і зьбіраў
На вяночак маленькі кветак,
Я хадзіў і наўкол пазіраў
На свой родны, шчасьлівы палетак.

Мне галоўкі схіляла трава,
Веснавеўшы ад променяў сонца.
Мне на сьцежках сінь-мурава
Вышывала ўзоры бяз конца.

Веснавейце маёва, лясы!
Засьцілайцеся ў кветкі, загоны!
Я вясковай чароўнай красы
Не зьмяню аніколі на горад!

Гомельшчына. **Б. Кавлоў.**

## Вясна

Зноў грэе сонца шчырае,
Няма на небе хмар,
Сьнег чорны разрываючы,
Бяжыць ручэй—бунтар.

Бяжыць ручэй, спрачаецца,
Імкнецца на прастор
І кліча рэчку скутую
Да вольнасьці, да зор.

І, з-пад сякеры вырваўшысь,
Нясецца рэха ў бор,
К сяўбе наўкол рыхтуюцца—
Там Шлёма, там Рыгор...

**Бр. Люгоўскі.**

## Гэй, брат заходні

Новымі хвалямі рэчкі бурляць,
Новыя ў полі вятры шалясьцяць,
Усё загрымела нанова!
Людзі паўстаўшыя дзесьці сьпяшаць,
Новым агнём у іх сэрцы гараць,
К шчасьцю кладзецца дарога!
З лёскатам ў нас усё імчыцца ўпярод;
Гэй, брат заходні! табе ўжо чарод
Скінуць акуцьці няволі!
Устань, страпяніся, парві ланцугі,
Будзеш і ты, як і мы, бяз тугі
Вольны у працы, і з доляй!

**Стрыгельскі.**



# ЛЕНІНСКАЯ КОМСАМОЛІЯ

## VII Усесаюзны зьезд аб працы комсамолу ў вёсцы

„Дапамога партыі ў справе заваяваньня серадняка і ўзмацненьня саюзу пролетарыяту і вясковай беднаты з сярэднім сялянствам пад кіраўніцтвам пролетарыяту застаецца галоўнай задачай УЛКСМ на ўвесь прадстаячы пэрыод“.

(*З пастан. VII зьезду УЛКСМ*).

Усе вы, мусіць, ведаеце, чаму на комсамол наша партыя ўскладае такі вялікі абавязак, як дапамога партыі ў замацаваньні саюзу пролетарыяту і беднаты з серадняками. Комсамол зьяўляецца самым блізкім памоцнікам партыі ў гэтай справе, ён зьяўляецца больш шырокай організацыяй у вёсцы, чымсь партыя. Ён павінен прыцягваць да партыі ня толькі шырокія колы моладзі, але і даросгае насельніцтва.

Дапамагаць узмацненьню саюзу рабочае клясы і сялянства, аб'ядноючы беднату з серадняком супроць кулака—асноўная задача.

Цяпер кулак у вёсцы расьце, ён хоча залезьці ў сельскі савет, камітэт сялянскай узаемадапамогі, коопэратыў, ён хоча пасварыць бедняка з серадняком, кажучы, што ўсе беднякі лодыры і таму яны нічога ня маюць. Гэта, таварышы, толькі зацэпка кулака. Вось нам і трэба сваю працу вясьці ў вёсцы так, каб не дапускаць да таго, што хочацца кулаку. Растлумачваць селяніну, бедняку і серадняку, што яго становішча можа палепшыцца толькі ў саюзе з пролетарыятам.

**Узрост і партыйна-пролетарскае кіраўніцтва.**

Наш комсамол цяпер зьяўляецца такой організацыяй, дзе ёсьць рабочая і сялянская моладзь, дзе маецца таксама моладзь іншых соцыяльных праслоек, як служачыя, саматужнікі, але першых (рабочых і сялян) у нас больш. Рабочых—44,2 проц., сялян—45,3 проц. і іншых—10,5 проц.

Ня гледзячы на тое, што ў нас сялян разам з іншымі больш, як рабочых, мы ня спыняем узросту за лік сялян-беднякоў і лепшых серадняко́ў, а кажам: усе сто процантаў рабочай моладзі ў комсамол, імкнуцца к поўнаму ахапленьню батрацкай, саматужна-наёмнай моладзі. Шырокі прыём у саюз бядняцкай моладзі, прыём у саюз лепшай, блізкай да партыі і саюзу серадняцкай моладзі. Пад лепшай часткай серадняцкай моладзі трэба разумець серадняцкую моладзь, якая імкнецца да падтрыманьня партыі і саюзу ў іхняй грамадзянскай працы, да саюзу з бедняком і батраком супроць кулака, да колектыўных і больш культурных форм землякарыстаньня.

Ня гледзячы на тое, што ў нашым саюзе шмат сялян і іншых, але наш саюз па сваёй працы, па сваёй сутнасьці зьяўляецца *пролетарскай, комуністычнай організацыяй, дзе кіруючая роля належыць рабочай моладзі.* Аб гэтым павінен ведаць кожны вясковы комсамолец. Акрамя таго, што мы будзем узмацняць пролетарскі асяродак, мы павінны ўзмацняць партыйны асяродак нашага саюзу, памятуючы, што *галоўнай гарантыяй пролетарскага кіраўніцтва ёсьць наліччa цьвёрдага партыйнага кіраўніцтва саюзам.*

Маючы моцны пролетарскі асяродак, цьвёрдае партыйнае кіраўніцтва і сталае правядзеньне выхаваўчай працы ў комсамоле, мы ня будзем палохацца таго, што наш саюз па сваёй сутнасьці зробіцца сялянскім,—дробна-буржуазным. Сваёю мэтаю мы ставім перавыхаваць у комуністычным напрамку ўсю тую сялянскую моладзь, якая прышла і прыдзе ў комсамол.

**Партыйны асяродак.**

Як вядома, парт'ядро (аб значнасьці партыйнага кіраўніцтва гаварылі вышэй) у вясковых ячэйках нязначнае. Трэба лепшых, вытрыманых комсамольцаў передаваць у партыю больш шпарчэй. Асабліва важна, каб быў сталы парт'асяродак у тых ячэйках комсамолу, дзе адсутнічае партыйная ячэйка.

Зьезд паставіў, як задачу перад комсамолам, каб у больш буйных вясковых ячэйках УЛКСМ сакратаром быў член альбо кандыдат комуністычнай партыі. Прадстаўнікі ад парт'ячэек фактычна не працавалі. Патрэбна пасылка сталых прадстаўнікоў, знаёмства партыйцаў з комсамольскай працай. Пасьля гэтага можна будзе толькі стала кіраваць працай ячэек комсамолу.

**Комсамольскі актыў і ажыўленьне працы ячэек.**

Сярод вясковага актыву мы мала знаходзім дзяўчат, асабліва батрачак. У ячэйках ёсьць такія ком-

самолкі, пры дапамозе якія-б змаглі вясьці саюзную працу. Пры выбарах бюро і ў працягу ўсёй працы трэба гэта мець на ўвазе.

Выхаваньне актыву вядзецца слаба, нарады, што праводзяцца райкомамі, наведваюцца дрэнна. Ёсьць такія комсамольцы, якія ня чытаюць газэт, не займаюцца самаадукацыяй. Мала ведаюць, а то і зусім ня ведаюць працы і ня цікавяцца, каб яе ведаць. Пры такім становішчы мы ня пойдзем наперад. Нам патрэбен актыў, які будзе добра разумець палітыку партыі, задачы, пастаўленыя ёю, які будзе стала разьбірацца ў пытаньнях бягучага жыцьця.

Наш актыў будзе гэта ведаць тады, як ён стане займацца самаадукацыяй, пасяшчаць гурткі, чытаць газэту, хаця-б „Комсомольскую Правду", „Чырвоную Зьмену", стала наведвацца на склікаемыя РК у раёне нарады.

У вапошні час праца нашых вясковых ячэек троху засохла. На сходах заўсёды разьбіралі даклады, мала падыходзячыя і мала задавальняючыя зацікаўленасьць комсамольцаў. Больш усяго займаліся палітыкай і менш усяго задавальнялі культурныя патрэбы. Меліся выпадкі забароны комсамольцам не хадзіць на вечарынкі сялянскай моладзі, забараненьне скокаў і г. д.

У працы адсутнічала жвавасьць, без якой комсамольская організацыя абходзіцца ня можа. Патрэбна практыкаваць наладжваньне вечароў з кароткай гутаркай, вуснай газэтай, сьпевамі, дэкламацыяй вершаў, друкованых у часопісах, сваёй творчасьці, не забараняючы і скокаў. Трэба палітыку ўвязваць з культурнасьцю, не перагібаючы ў адзін і другі бок кія.

Мелася шмат такіх прыкладаў, дзе бюро ячэйкі сабою падмяняла ўсю ячэйку. Сакратар альбо яго намесьнік захаплялі ўсе абавязкі: прадстаўніцтва ў сельсавет, КСУ, коопэратыў і шмат абавязкаў па ячэйцы, а ўсе апошнія комсамольцы хадзілі без абавязкаў. Вядома, такая пастаноўка працы нікуды няварта. *Трэба, каб бюро зьяўлялася організатарам і кіраўніком актыўнасьці і самадзейнасьці комсамольцаў, але захватвала на сябе ўсю працу ячэйкі.* У ячэйках павінна праводзіцца шырокая выбарнасьць бюро, павінны ажывіць сваю працу і сходы. Уцягнуць у іх актыўную працу ўсю масу комсамоліі—чарговая задача.

### У штодзеннай сваёй працы прымай удзел у пабудове соцыялізму.

XIV зьезд нашай партыі сказаў, што мы павінны праз коопэрацыю прыцягнуць сялянства да пабудовы соцыялізму. Практычна гэта будзе тое, аб чым гаварыў 2-гі пленум ЦК ЛКСМБ у красавіку гэтага году, каб кожны комсамолец сам альбо сям'я зьяўляліся сябром коопэратыву, каб ён (комсамолец) дапамагаў разьвіцьцю рознага роду коопэрацыйных аб'яднаньняў: машынным, мэліорацыйным, малочным і інш. таварыствам, дапамагаючы праз КСУ коопэраваньню беднаты і вытворчаму аб'яднаньню: організацыі арцеляй па высечцы, сплаву лесу, майстэрань і розных магчымых прадпрыемстваў.

*Кожнык омсамолец павіненве даць, што, умацоўваючы коопэрацыйныя аб'яднаньні, павялічваючы іх сродкі, мы кладзем цаглінку за цаглінкай на будынак соцыялізму.*

### Адукацыя сялянскай моладзі.

Існуючая няпісьменнасьць у краіне як сярод дарослых, так і сярод моладзі, а таксама імкненьне сялянскай моладзі да атрыманьня асьветы, неабходнасьць выхоўваньня палітычна і культурна разьвітых гаспадароў выклікалі за сабою організацыю школ сялянскай моладзі, сельска-гаспадарчых і розных культурна-асьветных гурткоў.

Далейшае паглыбленьне ведаў сярод сялянскай моладзі нам трэба будзе праводзіць праз організацыю вячэрніх школ сялянскай моладзі. Існаваўшыя школы ў гэтым годзе (ШСМ) узьніклі стыхійна па ініцыятыве самых ячэек. Працавалі ў некаторых акругах стала. Прыцягвалі і дарослае беспартыйнае насельніцтва.

Трэба таксама наладзіць добра працу сельска-гаспадарчага гуртка. Патрабаваць ад сяброў с.-г. гурткоў прымяненьня атрыманых вед на практыцы ў гаспадарцы і на грамадзянскіх дзесяцінах, калі яны маюцца.

### Вясьці працу сярод парабкаў.

Раней нашыя ячэйкі комсамолу праз сваіх упоўнаважаных па працы сярод батрацтва падмянялі сабой профсаюзную організацыю (саюз с.-г. і лясных рабочых). Рабілі ўмовы, на што ня мелі аніякага права, а ўтвораньне ўмоў з гаспадарамі можа рабіць толькі саюз с.-г. і лясных рабочых.

Працу сярод батрацтва трэба паглыбіць. Трэба дапамагаць у працы раённаму профупоўнаважанаму. Трэба ўцягваць батракоў у культурна-асьветную працу комсамольскіх ячэек, імкнучыся праз саюзныя ўстановы (упоўнаважаныя па працы сярод батрацтва і камітэты парабкоў) палепшыць матэрыяльнае становішча парабка.

У далейшай працы ўсяго комсамолу VII зьезд падкрэсьліў: *„Галоўным у працы комсамолу зьяўляецца тое, каб асабістыя інтарэсы моладзі (імкненьні да палепшаньня свайго матэрыяльнага становішча, да павышэньня свайго культурнага ўзроўню),—увязаць з агульнымі задачамі колектывізацыі сельскай гаспадаркі і ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва".*

**М. Адзінец.**



# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Ці дзесяціна, ці града ў агародзе.

Праходзіць час, калі трэба сказаць сялянству,—садзі капусту, буракі, авёс і гэтак далей.

Вось тут паўстае пытаньне, як лепш паказаць сялянству сваю практыку. Бязумоўна, што засевы Ленінскай дзесяціны,—справа добрая. Селянін пабачыць, як і сеюць і палліваюць, наогул будзе бачыць працу, якая праводзіцца на Ленінскай дзесяціне, але тут яшчэ ня зусім добра. Сельска-гаспадарчыя гурткі і ячэйкі яшчэ ня здолелі зацікавіць моладзь і ў выніку: не хапае сіл для апрацоўкі.

Можна даведацца праз газэты, што вельмі часта ў галіне гэтае працы прыходзіцца садзіцца нашым маладым гаспадаром у галёш, бо хоць былі добрыя пачаткі, але з брыдкімі канчаткамі. Ленінскія дзесяціны добра не апрацоўваюцца з-за недахопу сілы, вопыту. Сялянства наша, паглядзеўшы на ўсю працу, абзывае моладзь смаркачамі, малакасосамі і наогул складаецца думка, што гэтая сіла яшчэ маладая і тварыць новага ня можа.

Супроць гэтага нам трэба павесьці канчатковы адпор, дзеля чаго трэба свой розум паказаць на практыцы. Але тут паўстае гэткае пытаньне, на чым нам яго паказаць, калі мы дзесяціны не апрацуем?

Вось паколькі гэта пытаньне паўстала, я хачу выкласьці свае ирапановы наконт таго, як нам паказаць свой „розум" на практыцы.

Мне здаецца, паколькі тая ці іншая ячэйка альбо сельска-гаспадарчы гурток апрацаваць Ленінскай дзесяціны ня можа, дык кожны сябра павінен у бацькаўскім агародзе адвесьці сабе адну граду альбо загон і паказальна апрацаваць яе. Гэтым мы здолеем паказаць селянству і зраўняць грады бацькаўскія, „старога розуму", з градамі „маладога розуму".

Бязумоўна, што гэта будзе лепшым агітатарам дзеля старых сялян, каб яны ўзімку ішлі вучыцца ў сельска-гаспадарчыя гурткі, гэтым самым буракі і качаны капусты так „навядзьмарацЬ" старых сялян, што яны будуць з вялікім апэтытам слухаць нашых хлапцоў з „маладым розумом", калі яны загавораць аб паляпшэньні нашае сельскае гаспадаркі.

Таксама ў „Дзень ураджаю" можна зрабіць сваю вясковую выстаўку, дзе паказаць дасягненьні, але перад гэтым трэба ўсё абмеркаваць добра, апрацаваць, згаварыцца са ўсімі таварышамі, кнігаю, газэтаю, агрономам, каб ня пасьці тварам у грязь, бо на другі год бацька і грады ня дасьць!

Ну, дык хлопцы-комсамольцы, „творам свае сельскія гаспадаркі".

**Ул Тарановіч.**

Семяжоўская яч. КСМ.

**Ад рэдакцыі.** Друкуючы гэты артыкул вясковага комсамольца, рэдакцыя часопісі зьвяртаецца з просьбай да нашых супрацоўнікаў прысылаць грунтоўныя допісы на тэмы: „Як ячэйка апрацавала Ленінскую дзесяціну" і „які ўдзел прымаюць комсамольцы на бацькаўскай гаспадарцы", „як вывуць і працуюць нашыя маладыя гаспадары-комсамольцы".



## Трымаем сувязь з чырвонай флётай.

*(Балотненская ячэйка ЛКСМБ, Магілеўшчына).*

Аднаго разу, сабраўшыся, нашыя комсамольцы пастанавілі напісаць сяброўскі ліст маракам карабля „Парыская комуна"; што парашылі, тое і зрабілі.



Хутка мы атрымалі ўжо ліст ад маракоў, з якога мы некалькі азнаёміліся з жыцьцём гэтага карабля.

Гэтак мы пачалі трымаць сувязь з чырвонай флётай.

**Ф. А.**

5-IV-26 г.

## Трэба падцягнуцца!

*(Блуская ячэйка Пухавіцкага раёну, Менічына).*

Блуская ячэйка ЛКСМБ складзена з комсамольцаў 5 вёсак нашага сельсавету, якія знаходзяцца на адлегласьці ад 1 да 4 вярсты. Але некаторыя сябры Блускай ячэйкі зусім слаба адносяцца да сваёй комсамольскай працы і кепска вядуць сябе сярод беспартыйнай моладзі. На вечарынках, вяселлях, спэктаклях комсамольцы першымі падымаюць спрэчкі за танцы. Не адстаюць і па высушцы самагонкі. Ад сялян і беспартыйнай моладзі часта пачуеш: „Гэтыя комсамольцы толькі на паперы, а на справе і беспартыйнага ня варты". Пры перавыбарах сельсавету комсамольцы ня прымалі аніякага ўдзелу, калі і высоўвалася комсамольская кандыдатура, дык сяляне не галасавалі за яе. У выніку ў склад сельсавету не прашоў аніводзін комсамолец. Комсамольцам Блускай ячэйкі трэба падцягнуцца!

**Алесь Сьцежка.**

## Праспалі зіму, а політзаняткаў і ня пытай.

*(Камен-Борская ячэйка Бярэзінскага раёну).*

Бярэзінскім райкомам дадзены былі дзеля Кам.-Борскай ячэйкі тры вучэбнікі Е. Яраслаўскага, па якіх павінен быў займацца політгурток. Але ўся бяда, што гэты гурток вельмі кепска праводзіў заняткі. Можа за ўсю зіму і весну і было вечароў якіх-небудзь тры-чатыры, на якіх праводзіліся заняткі, а ўсе астатнія вечары, проста кажучы, спалі хлапцы альбо з дзяўчатамі куралесілі. Вядома, у выніку ад такіх заняткаў карысьці ніякай і няма.

**В. Пералётны.**

15/IV 1926 г.

## Гурток швачак.

*(Вёска Каменка Узьдзенскага раёну).*

Калі ўзяў шэфства над нашым сельсаветам Народны Камісарыят Грашовых Спраў, дык адразу-ж „быў арганізованы гурток швачак у нашай вёсцы.

У гэтым гуртку працуюць 10 дзяўчат, з іх 3 комсамолкі.

Заняткі праводзяцца кожны чацьвер. Кіруе ўсім гуртком ячэйка Комсамолу.

Комсамольцы ў час іх заняткаў чытаюць кнігі, газэты, вядуць гутаркі.

Дзяўчаты гэтым вельмі цікавяцца і адносяцца вельмі сур'ёзна.

**С. Ярмык.**

## Моладзь прачнулася.

*(в. Малюшына, Калінінщчына).*

Год таму назад наша вёска была, цёмнай. Ня відаць было аніводнай газэты. А ў гэтым годзе справа куды ляпей. Маем насьценную газэту, моладзь піша вершы, артыкулы, допісы з нашага вясковага жыцьця.

Гэтак сама выпісваем газэты і часопісі.

**Ц. Якімчэнка.**

## Як працуе вучнёўская моладзь у Гомельшчыне.

У Гомельшчыне вучнёўская моладзь у большасьці сваёй працуе і вучыцца на расійскай мове. Але-ж ёсьць і такія школы, дзе ўжываецца беларуская мова. Гэта ў большасьці—школы-сямігодкі. У тэхнікумах у Гомельшчыне беларуская праца вядзецца праз літаратурныя беларускія гурткі. Напрыклад, у Гомельскім педагогічным тэхнікуме маецца моцны гурток, а таксама і філія „Маладняк", якія праводзяць паступова беларусізацыю тэхнікуму і вядуць працу сярод чыгуначнікаў і чырвонаармейцаў. У Клінцоў і Навазыбкаве існуюць таксама беларускія гурткі, якія трымаюць сувязь з філіяй. Асабліва добра працуе Чычэрская сямігодка, там і ячэйка і піонэрфорпост працуюць на беларускай мове. Як вопыт, у Чычэрскай валасьці перавядзена Анапольская ячэйка на беларускую мову. Вопыт даў цікавыя вынікі. Сябры ячэйкі яшчэ мацней зьвязаліся з беспартыйнымі, і ячэйка расьце. З гэтага відаць, што у Гомельшчыне трэба комсамольскія ячэйкі пераводзіць на беларускую мову; ад гэтага і ячэйкі мацнеюць і вёскам карысьць большая.

**М. Карпачоў.**

## Няграматныя вучацца.

Амаль што кожны вечар у капыльскую белсямігодку ідзе куча дзяўчат і хлапцоў вучыцца грамаце. З вялікай ахвотай нясуць яны вучнёўскія прылады і дужа рады сваёй вучобе. Кіраўніком гэтага гуртка зьяўляецца настаўніца, якая таксама імкнецца навучыць іх чытаць, каб і яны маглі сачыць за усімі навінамі—чытаць газэты, вучыцца, як будаваць лепшае жыцьцё ў сваім краі.

Мы пэўны, што выканаем лёзунг „Да дзесяцігодзьдзя існаваньня Савецкае ўлады—ніводнага няпісьменнага".

— Па нашаму прыкладу пастарайцеся ўсе выканаць гэты лёзунг,—пішуць у „М. А."

**Юнкоры.**

## Распачалі працу.

Да сакавіка ў Грозаве існавала адна ячэйка ЛКСМБ, якая налічвала каля 50 чал. У сакавіку ячэйка была разьдзелена на 2: местачковую і сялянскую (пры сельсавеце). У склад ячэйкі пры сельсавеце ўвашлі ўсе комсамольцы-сяляне. Да ячэйкі дамацована фракцыя КСМ пры сямігодцы і атрад ю. п. імя Крупскай. На першым сходзе заслухалі даклад аб нашай надыходзячай працы, выбралі бюро ячэйкі. Для таго, каб апраўдаць сваю назву „сялянская", ухвалілі праводзіць свае сходы часткова па вёсках у такім парадку: адзін раз у Грозаве, другі ў вёсцы.

Пастараемся-ж выканаць ускладзеныя на нашу ячэйку задачы!

**Я. Рабіна.**

## Ячэйка замірае.

*(Янушкавіцкі с/с, Лагойскі раён).*

Пры Янушкавіцкім сельсавеце была організована ячэйка комсамолу, у якой налічвалася 8 чалавек. Спачатку ў ёй вялася сталая праца—ладзіліся спэктаклі, праводзіліся комсамольскія вечарынкі, а цяпер, у зьвязку з тым, што няма сакратара, комсамольцы і запамятавалі, калі ў іх была апошняя сходка. Трэба, каб райком зьвярнуў увагу, бо калі гэтак будзе і далей, дык ячэйцы не існаваць.

**М. Жардэцкі.**

## Нагрузка—пасылкі.

*(Задняпроўе. Ворша).*

Ня ўсюды добра стаіць справа з правільнай нагрузкай комсамольцаў. Вось, прыкладам, у нас, у Задняпроўскай ячэйцы, дык сакратар выкарыстоўвае комсамольцаў на розныя пасылкі, не зважаючы на тое, ці дазваляе час, і ці хлапцы вольныя ад працы ў гаспадарцы. А калі хлопец паспрабуе спрачацца, дык ён: „Ну, калі так, дык чакай на бюро ячэйкі разьбяромся з табою".

Трэба, каб Райком сказаў сваё слова нашаму сакратару. **Задняпровец.**

## Дзяўчаты вучацца.

*(в. Жораўка).*

У нашай вёсцы організованы пункт па ліквідацыі няпісьменнасьці, у якім налічваецца 36 адных толькі дзяўчат.

Праца лікпункту наладжана добра, заняткі адбываюцца рэгулярна.

**Багун.**

## Праз вячоркі сувязь з беспартыйнай моладзьдзю.

Смалявіцкая ячэйка пастанавіла правесьці ў суседняй вёсцы Прысынак комсамольскую вячорку, на якой, між іншым, зрабіць даклад аб комсамоле.

Вясёла ішлі комсамольцы ў суботу вечарам у вёску Прысынак; узялі з сабой гармонік.

Уся прысынкаўская моладзь сабралася ў школе. Зрабілі перш даклад. З дапамогаю пытаньняў і выказваньняў пасьля дакладу канчаткова ўясьніла сабе ўся беспартыйная моладзь, што такое комсамол.

Пасьля дакладу наладзілі гульні. То там, то сям можна было бачыць, як комсамолец размаўляе з беспартыйным аб газэце, комсамоле, вучобе і г. д.

І вясковая моладзь, якая дагэтуль толькі чула аб комсамоле, раптам так пазнаёмілася, што лепш і ня трэба.

І як праводзілі комсамольцаў, дык толькі і чулася:

— Наведвайцеся часьцей да нас, хлопцы. Прыходзьце кожнае сьвята.

— Не, цяпер ужо за вамі чарга,—казалі комсамольцы і прасілі іх прыходзіць у нардом на спэктакль.

**Янка Кім.**



# „Крыніца" моладзь абуждае

*(Жывы абразок)*

— Антось, ты чуў, як цябе прабралі ў газэце за карты, з малюначкам, нават,—так сустрэў свайго сябра Піліпаў Якуб, разам падышоўшы з ім з вёдрамі да студні.

— Ну? Што? У якой газэце? Што ты плявузгаеш? Каго?.. Мяне?!..

— Прыдзі ў школу вечарам—пабачыш...

Надышоў вечар. Антось, яшчэ не вячэраўшы, паплёўся, апусьціўшы галаву, да школы. Хутка школа напаўнялася хлапцамі і дзяўчатамі. Сягоньня ўся моладзь вёскі Замошша да аднаго чалавека, пачуўшы аб выхадзе свае „Крыніцы", зьявілася, як на баль, у школу—пабачыць-бы яе.

Прышлі нават і дзядзькі.

Усе згуртаваліся вакол аднае сьцяны, дзе вісеў сёньнешні імяніньнік—першы нумар насьценнай газэты. Шмат хто з роду гэткай не бачыў і ня ведаў, што гэта за штука. Дзядзькі, дык нават не хацелі верыць, што гэта яе свае хлапцы збудавалі. Гэта з Слуцку прывязьлі, няйначай...: казалі.

— Каця, глянь, якія прыгожыя малюнкі! Ну, глянь, глянь сюды! Во бач, як Хведар Сук з вялізарным нажом гоніцца за сваёю нявесткаю! Ах, каб яны пратанулі, ну як яны тут усё гэта адмалявалі.—Во нейкі дзядок круціць трыяр якраз, як дзядзька Зьмітрок. А во і нашы карцёжнікі, глядзі, якія сьмешныя, добра крыюць іх—ім так і трэба,—чуваць разам некалькі галасоў. У гэтыя часы ў Антося і Цімоха (главары карцёжнага гуртка) аж твар мяняецца ад злосьці. Антось пачынае на ўсё горла крычаць: „Го! Якое каму дзела, што мы ў ачко гуляем... Я што хачу, то і раблю з сваімі грашыма і ў гэтым ня буду пытацца ў Міхася ды Андрэя. Мы іх працянем... Мы ім гэтага ня просьцім...

Міхась з Андрэем—рэдактары, сёньня без канца і меры вясёлыя, радуюцца; ды яшчэ-б, як ня радавацца. Яны хоць і папрацавалі над сваёю „Крыніцаю", затое ўжо вынікі працы адразу відны—усе „Крыніцаю" зацікаўлены, усім яна з першага погляду становіцца сваёю роднаю газэтаю. Хлапцы ўсе абяцаюць пісаць, чаго хацець яшчэ лепшага!

І, па праўдзе, люба заглядзецца на „Крыніцу". Газэтка разьбіта на аддзелы, напісана разборчыва, зразумелаю моваю, аздоблена цікавымі малюнкамі, шмат месца адведзена сельскай гаспадарцы і жыцьцю вёскі, ну, адным словам, газэта на „ять".

Моладзь не налюбуецца з яе—усе вяселяцца.

Асабліва ўсіх зацікаўлівае гумарыстычны аддзел—прачытваюць яго па некалькі разоў і, здаецца, канца сёньня чытаньню і сьмеху ня будзе. Антось не сунімаецца, аж пачынае ўжо чарнець са злосьці, чаму ўсім весела.—Ну, чаго вы сьмяецеся, дурні вы гэткія, гэта не газэта, ярунда, пляваць я на яе хачу—у карты гуляць і піць усё роўна будзем,—і пашоў і пашоў, як на калёсах, вярцець языком.

— Ну, дудкі,—раздаюцца галасы,—пахваліўся яшчэ, калі Янучка ўжо пусьціць больш у хату. Добра і яму даваўся. Глянь, як ён выцягнуў на малюнку руку за пятачком, якія яму сыпаліся ў кішэню ад кожнага банка!

— Го-го-го-го,—раздаецца аднадушна ў адказ:—гэта Антося нібы нажом ужо кроіць па сэрцу.

Часы бягуць. Ужо сягоньня другая нядзеля. Моладзь зноў-жа ўся пагалоўна ў школе. Сягоньня ўжо яны падлічваюць тыя вынікі, якія дадзены „Крыніцаю", а вынікі ёсьць, напр.:

1. У вачко больш хлапцы ня гуляюць. Карцёжны гурток распаўся. Антось зарокся век ня гуляць у карты. Цяпер падпісаўся ён на 6 месяцаў на „Крест. газету"—хлапец пераменяўся.

2. Сук гэтак сама пасьмірнеў з сваёю нявесткаю. Кажуць, кідацца на яе з нажом больш не асьмеліўся.

3. Ня пусьцілі замошцы сьвіней на жыта і г. д., і г. д.

Моладзь з нятрываласьцю чакае выхаду другога нумару „Крыніцы", у які многія падалі дзеля зьмяшчэньня ўласныя допісы.

Хутчэй-бы ён вышаў!.. Няхай жыве „Крыніца", гэта сапраўдныя словы замоскае адсталае моладзі, паміж якою няма нават ні аднаго комсамольца.

„Крыніца" моладзь абуждае.

в. Замошша

Слуцкай акр.

**Міхась Шпілеўскі.**

*Фотогурток АБВШ.*



Група курсантаў-спортсмэнаў.

# Будуць Чырвоныя Камандзіры

*(Аб'яднаная Беларуская Вайсковая Школа)*

На Комунальнай вуліцы, з заходняга боку пляцу Парыскай Комуны, стаіць вялікая, белая двухпаверхавая камяніца, якая займае цэлы квартал.

Да Вялікага Кастрычніка 1917 году тут была духоўная сэмінарыя, „фабрыка папоў".

Гнязьдзілася тут мяшчанская моладзь, сынкі папоў, дзякоў і чыноўнікаў.

Што-год гэта „фабрыка" выпускала соткі ўсё новых і новых папоў, якія распаўсюджвалі рэлігійны дурман сярод цёмных мас.

Але Вялікая Кастрычнікавая рэволюцыя сваім магутным подыхам раскідала папоўскае гняздо, разагнала дармаедаў і цяпер над дзьвярмі, што выходзяць на пляц, красуецца шыльда: **Аб'яднаная Беларуская Вайсковая Школа Каманднага Складу імя ЦВК Беларускай Рэспублікі.**

Цяпер мы бліжэй разгледзім, што гэта за школа.

Само названьне ўжо гаворыць нам гэта.

У ёй вучацца тыя людзі, якія ахвяравалі сябе вайсковай справе. Але ня толькі вучацца вайсковай справе ў гэтай школе. Зьвяртаюць таксама ўвагу і на выхаваньне, на разьвіцьцё. У нашай Чырвонай арміі чырвонаармейца не абманваюць так, як у буржуазнай арміі салдата. Там кажуць: „Вы ідзіцё на барацьбу за веру, цара і бацькаўшчыну". Лёзунг „за веру" служыць сродкам, каб затуманіць галаву салдатам, каб яны вераю і праўдаю служылі буржуазіі. У нас-жа, у Чырвонай арміі, кожны чырвонаармеец павінен ведаць, што ён вядзе барацьбу за справу рабочых і сялян. Але каб ён гэта ведаў, яго трэба навучыць. І вось у гэтай вайсковай школе, у гэтай кузьні выкоўваюцца і гартуюцца тыя настаўнікі —камандзіры, якія будуць вучыць чырвонаармейцаў, будуць выхоўваць сьвядомых байцоў-грамадзян.

*Фотогурток АБВШ*



Начальнік і камісар школы тав. Валасноў.

У нас Чырвоная армія дзеліцца па роду аружжа: пяхота, артылерыя, кавалерыя і інш. У гэтай-жа школе ёсьць і артылерыя і пяхота, а дзеля гэтага яна завецца аб'яднанай.

Мы маем сваю нацыянальную Беларускую Рэспубліку, у якой трэба каб было і сваё нацыянальнае беларускае войска. Вось гэта школа і выпускае камандзіраў-беларусоў, якія паедуць у нацыянальныя беларускія вайсковыя часткі, дзе будуць вучыць нашых чырвонаармейцаў на нашай-жа роднай беларускай мове.

Хто вучыцца ў гэтай школе?

Большасьць сялян. Калі мы возьмем у процантах, то будзем мець наступныя лічбы:

| | | |
|---|---|---|
| Сялян | 60 | проц. |
| Рабочых | 37 | „ |
| Іншых | 3 | „ |
| Усяго | 100 | проц. |

Каб паступіць у школу, трэба мець наступную адукацыю.

Пры паступленьні ў пяхоту трэба ўмець бегла чытаць, пісаць, лёгка разьвязваць задачкі на чатыры дзеі па арытмэтыцы, ведаць беларускую мову і разьбірацца ў асноўных пытаньнях палітграматы.

Пры паступленьні ў артылерыю трэба мець адукацыю ня менш сямігодкі.

Каб паступіць у школу, трэба мець камандыроўку ад партыйных, комсамольскіх ці грамадзкіх устаноў.

Прымаюцца ў школу выключна добравольцы, якія цікавяцца вайсковым жыцьцём і гатовы ахвяраваць сябе ў працягу цэлага шэрагу гадоў вайсковай

службе. Прымаюцца ў узросту ад 17 да 23 году.

Бяручы пад увагу тое, што ў працягу трох год вучобы (а ў артылерыі чатырох) курсанту прыдзецца рабіць вялікія патугі, у школу прымаюцца людзі толькі фізычна здаровыя.

Набор у школу пачынаецца ў восень з першага жніўня кожнага году.

**Юрка Доўгі.**

## НАШ БЫТ

### Трыста комсамольцаў.

Яшчэ з восені, як у школу зрабілі набор маладых курсантаў, лік комсамольцаў адразу павялічыўся. Было 169, а цяпер ужо 320. Праўда, большасьць з іх былі політычна мала сьвядомыя, бо вялікі процант іх складаецца з сялян, а дзеля таго каманднаполітычнаму складу школы прышлося аддаць шмат часу і зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу.



Курсанты АБВШ у свабодную часіну ў Ленінскім кутку.

### Комсамольцы з вучобай справіліся.

На чаргу былі пастаўлены два пытаньні: 1) прывіць дысцыпліну і 2) падняць вучобу. Спачатку цяжка было, прышоўшы з грамадзянскай установы, у якой была поўная дэмократыя, пераняць дысцыпліну, але комсамольцы з гэтым хутка справіліся.

### Як мы вучымся.

У клясах, на лекцыях па грамадзяназнаўству, мэтодыцы політработы, пасьля саюзная школа, партшкола. Апрача клясаў, займаемся пры ленкутках грамадзянскай працай, таксама політвучобай. Комсамольскія гурткі, якія існуюць пры ленкутках, даюць добрую політпадрыхтоўку кожнаму комсамольцу. Пры ленкутках яшчэ ёсьць такія аддзелы: міжнародны, партыйны, ленінскі, нацыянальны, прамысловы і інш., у якіх комсамольцы прымаюць самы актыўны ўдзел. Таксама актыўную працу вядуць комсамольцы і ў організацыях МОПР'у, Авіяхіму і інш.

### Вайсковая вучоба—фундамант.

Але вайсковая вучоба, як фундамант, ставіцца на першым месцы, бо раней трэба самому навучыцца, а пасьля ўжо другіх вучыць.

Курсант АБВШ **Адамчык.**



Група курсантаў артылерыйскай батарэі АБВШ.

## ЧАСТУШКІ

Сонца з высі на зямлю  
Кідае праменьне.  
Хутка ў вёсцы стары быт  
Новым мы заменім.

Каля лесу на гарэ  
Стаіць адна хата.  
Сёньня мяне ў комсамол  
Адпускае тата.

У садочку на краю  
Расьцьвіла маліна,  
Міхась з Ганнай без папа  
Ахрысьцілі сына.

Прыляцела к нам вясна  
Расьцьвітаюць кветкі,  
Наш Антось у комуністых,  
Ў піонэрах дзеткі.

* * *

Ой, гармонік, мой гармонік,  
Заіграй вясёлую,  
Няхай гул твой загамоніць  
Па ўсіх вёсках й сёлах.

Ой, гармонік, мой гармонік,  
Загрымі на ўсе лады,  
Хай і на сялянскіх гонях  
Загудзіць сьпеў малады.

Ой, гармонік, мой гармонік,  
Віp жыцьця памерыш ты...  
Раскажы усім сягоньня  
Аб жыцьці цяперашнім.

**Х—ч.**







# ВЕДАЙ СВОЙ КРАЙ

Проф. І. А. Сербаў.

## Савецкая Беларусь

### Прамысловасьць.

Сельская гаспадарка, пераважна *ральніцтва*, у БССР займае першае месца ў прамысловасьці як па сваёй колькасьці асобных гаспадарак, так і па колькасьці сваіх вырабаў. Сельска-гаспадарчая прамысловасьць налічвае ў сабе 678.865 гаспадарак, із іх 638 савецкіх і 678.227 сялянскіх.

Савецкія гаспадаркі-комуны і арцелі, організаваныя ў быўшых панскіх маёнтках, здавальняюча абсталяваны жывым і мёртвым інвэнтаром. Уводзяць шматпольле й плодазьмен, травасеяньне й зялёнае ўгнаеньне, маюцца племянныя й семянныя гаспадаркі. Вядомая справа, што й вытворчасьць у савецкіх гаспадарках параўнаўча высокая.

Сялянская гаспадарка—як хутарская, так і грамадзкага зямлякарыстаньня—абсталяваны слабей савецкіх. Агульны недахоп данага тыпу гаспадаркі—малазямельле, цераспалосіца і трохпольле. У сярэднім, на адну сялянскую гаспадарку прыходзіцца каля 5-ці дзесяцін усяе прыгоднае зямлі. Угнаеньне ўжываецца толькі з гною, які не заўсёды задавальняе патрэбы гаспадаркі. З гэтае прычыны і вытворчасьць сялянскай гаспадаркі ніжэй савецкай.

Ураджай збожжа й палявых расьлін па БССР у сялянскіх гаспадарках *з дзесяціны—пудоў* відаць з наступнай табліцы:

| | 1924 г. | 1923 г. | 1905–13 г. |
|---|---|---|---|
| Жыта азімае . . . | 48,1 | 46,0 | 42,4 |
| „ яравое . . . | 39,8 | 41,0 | 35,4 |
| Пшаніца азімая . . | 54,6 | 51,6 | 49,0 |
| „ яравая . . | 48,3 | 48,9 | 44,7 |
| Ячмень . . . . . | 51,2 | 45,0 | 47,1 |
| Авёс . . . . | 55,7 | 51,0 | 48,3 |
| Грэчка . . . . . | 33,0 | 30,6 | 28,9 |
| Пшано . . . . . | 48,8 | 39,8 | 42,2 |
| Гарох . . . . . | 44,4 | 34,6 | 45,5 |
| Бульба . . . . . | 548,2 | 523,3 | 430,2 |
| Лён семя . . . . | 26,5 | 22,4 | 29,2 |
| „ валакно . . . | — | 17,6 | 27,4 |
| Каноплі семя . . . | 29,4 | 26,8 | 32,6 |
| „ валакно . . | — | 15,9 | 32,6 |

З сялянскаю гаспадаркаю мае цесную сувязь *хатняе жывёлаводзтва*, якое, дзякуючы скарачэньню лясных плошчаў, выганаў і пашы для жывёл, натуральна некалькі панізілася ў колькасных адносінах.

Каб падняць сельска-гаспадарчую прамысловасьць, Беларуская Савецкая ўлада вядзе шырокія мерапрыемствы—па зямлябудаўніцтву й абсталяваньні сялянскіх гаспадарак, па ўвядзеньні сыстэмы шматпольля й плодазьмену. У кожным раёне організаваны пункты: агрономічны, машына-пракатны, зёрначысьцільны і злучны. Сялянству перададзены лясы мясцовага значэньня. Яўрэйскія працоўныя масы надзяляюцца зямлёю.

Плошча *пладовых садоў* некалькі скарацілася, але ўсё-такі з Беларусі да гэтых часоў вывозіцца ў Ленінград, Маскву й Украіну шмат продуктаў свайго садоўніцтва. Покуль што беларускія яблыкі „антонаўка“ і „апорт“ і слуцкая груша „бэра“ ня маюць сабе конкурэнта на знадворным рынку.



Музэй Рэволюцыі.

2-га мая г. г. у Менску адчынены музэй рэволюцыі. На нашым здымку выгляд знадвор'я.

*Гародніцтва* добра вядзецца ў гарадох і прамысловых цэнтрах і абслугоўвае патрэбы мясцовага рынку.

Раней Беларусь давала на міжнародны рынак у вялікай колькасьці лепшае валакно лёну і пянькі, вяроўкі і шпагат, семя, масла і жмыхі. Але цяпер, дзякуючы прогрэсу малазямельля, сяляне сеюць лён і каноплю толькі для сваіх хатніх патрэб. З гэтай прычыны гэтая прамысловасьць упала.

Даўней на Беларусі сяляне разводзілі вялікія *пчольныя пасекі*, якія поўнасьцю задавальнялі сваімі вырабамі мясцовыя патрэбы і значныя запасы мёду

і воску збывалі на знадворны рынак. Цяпер-жа, дзякуючы скарачэньню плошчы лясоў і дзікіх мёданосных траў і кветак, пчалярства заметна падае, але мясцамі яно пераходзіць на ўдасканаленую сыстэму рамовага вульля, машынную вашчыну і лепшую пароду пчалы.

*Паляваньне й рыбацтва* агулам маюць аматарскі характар, хоць некаторыя селішчы каля вялікіх рэк і азёр збываюць сьвежую рыбу на мясцовы рынак.

**Музэй Рэволюцыі.**



Ленінскі куток.

*Сялянскія дапаможныя промыслы*, цесна зьвязаныя з лесам, як выраб абадоў, дуг, палазоў, хамутовых кляшчэй і клёпак, аджылі свой век разам з лясными нетрамі.

Па тэй-жа прычыне захірэлі промыслы па загатоўцы ягад і грыбоў на продаж, ядлоўцавых ягад і лекавых траў для аптэчнае справы.

*Фабрычна-завадзкая буйная прамысловасьць* Беларусі—слаба разьвітая, а з гэтай прычыны й ня мае сваіх буйных цэнтраў. Але затое тут добра працуюць малыя заводы, скураныя, мукамольныя, бравары, лесапільныя, дрэваапрацоўчыя, смалакурныя і шкляныя, а гэтак сама сернікавыя, лёнапрадзільныя, папяровыя, абойныя і картонныя фабрыкі. Тавары, якія выпускаюцца імі, ня толькі абслугоўваюць мясцовыя патрэбы, але й ідуць на знадворны рынак.

Акрамя таго, вядзецца вялікая праца па абсталяваньні і пуску новых фабрык і заводаў буйнай і лёгкай прамысловасьці.

Вялікае распаўсюджаньне маюць таксама розныя майстэрні: рамонтныя, кавальска-сьлясарныя, сталярска-такарныя, мэблевыя, швэйныя і абуўныя, у якіх заняты найбольшыя масы рабочага пролетарыяту гарадоў і мястэчак.

*Саматужнікі*, асабліва гарадзкія й мястэчковыя, хутка разьвіваюць сваю вытворчасьць. Кавалі й сьлесары, гарбары, бандары й такары, ганчары й маляры — цалком задавальняюць простыя патрэбы мясцовага рынку.

Рабочае жыцьцё й рух асабліва пуката выступае ў гарадох — Менску, Барысаве, Віцебску, Воршы, Магілеве й Бабруйску.

*Коопэрацыйны рух* вельмі разьвіты на Беларусі й захватвае ўсе віды народнае гаспадаркі, што можна бачыць з прыкладзенай да гэтага табліцы:

Коопэрацыйная сетка БССР і лік пайшчыкаў на 1 красавіка 1925 г.

| Усе віды коопэрацыі | | Спажывецкая коопэрацыя | | У тым ліку: Рабочая й гарадзкая коопэрац. | | У тым ліку: Сельская кооопэр. | | С.-г. прамысловая й крэдытн. коопэрац. | | У тым ліку с.-г. коопэрац. комуны, арцелі, с.-г. т-вы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік коопэрацыйных організацый | Лік пайшчыкаў | Лік коопэратываў | Лік пайшчыкаў | Лік коопэратываў | Лік пайшчыкаў | Лік коопэратываў | Лік пайшчыкаў | Лік коопэрацыйных організацый | Лік пайшчыкаў | Лік коопэр. орган. | Лік пайшчыкаў |
| 20[illegible]0 | 370319 | 629 | 211711 | 34 | 62355 | 515 | 142088 | 1380 | 158608 | 767 | 74582 |

**Культурная і асьветная праца.**

У сучасны момант БССР пад уладаю саветаў цьвёрда йдзе па шляху свайго культурнага й дзяржаўнага адраджэньня. Вядзецца шырокае вывучэньне краіны: яе прыродных багацьцяў, экономікі, гісторыі, народнае гаспадаркі, быту і культуры.

Разьвіваецца сетка народных школ, якія ўжо зьмяшчаюць да 70 проц. дзяцей школьнага ўзросту. Адначасова ўводзіцца ўсеагульная асьвета па складзенаму пляну і праводзіцца ліквідацыя няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва. Пашыраецца сетка сярэдніх вучэбных устаноў, тэхнікумаў, профэсыянальна-тэхнічных школ, вучэбных майстэрань, студый і рабочых факультэтаў.

Заснованы й працуюць Дзяржаўны Унівэрсытэт, Комуністычны Унівэрсытэт, Сельска-Гаспадарчая Акадэмія і Вэтэрынарны Інстытут.

Вышэйшы савет *фізычнай культуры* шырока разгарнуў сваю працу па фізычным выхаваньні мала-

**Музэй Рэволюцыі.**



Куток вялікага паўстанца 1863 г. Кастуся Каліноўскага.

дога пакаленьня. Заснованы гурткі фізкультуры пры школах і рабочых арганізацыях, а таксама арганізованы габінэты для дасьледваньня й вывучэньня фізычнага стану моладзі.

Праца па *ахове здароўя* выражаецца ў адчыненьні й абсталяваньні рознага роду ўстаноў па ахове здароўя, што можна бачыць з наступных табліц:

Лекавая сетка БССР на 1 студзеня 1925 г. (па даных Наркамздраву).

| ЛЕКАВЫЯ ЎСТАНОВЫ | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Больніцы | Лік ложкаў у іх | Амбуляторыі | | Фэльч. і акушэрскія п. п. | Фэльчарск. п. п. пры іспраўдом. | Зубныя габінэты |
| | | Больнічныя | Самастойныя | | | |
| 115 | 3781 | 94 | 125 | 148 | 6 | 82 |

| ПРОФІЛАКТЫЧНЫЯ ЎСТАНОВЫ | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дыспансэры тубэркулёзн. | Лік ложкаў у іх | Дыспансэры вэнэролёгіч. | Тубэркулёзныя санатор. | Лік ложкаў ў іх | Дэзустаноўкі і апараты | Хэміка-бактэор. лябораторыі | Пастэраўск. інстытуты | Дамы санітар. асьвет. | Консультацыі для цяжарных |
| 8 | 55 | 3 | 7 | 135 | 60 | 7 | 2 | 3 | 3 |

Пашыраецца сетка *шляхоў зносін* — грунтовых, шосэйных і чыгуначных, а гэтак сама *паштовых, тэлеграфных* і тэлефонных зносін. З мінулага году арганізавана „кальцавая пошта“, якая рэгулярна абслугоўвае вёску аж да яе асобных хутароў і двароў.

Заснованы — Дзяржаўны музэй, Музэй Рэволюцыі, Дзяржаўная бібліотэка, Цэнтральны архіў і Акадэмічны тэатр.

Шырака разгарнула сваю працу Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.

Усебеларускае аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў „*Маладняк*“ разьвівае беларускую пролетарскую мастацкую літаратуру, тэатр і вобразнае мастацтва. Аб'яднаньне налічвае ў сабе да 500 сяброў. З траўня 1925 г. Цэнтральнае Бюро „Маладняка“ распачало выданьне кніжніцы „Маладняка“.

Беларускі культурны рух на чале з Інстытутам Беларускай Культуры, які сваімі сэкцыямі і камісіямі аб'ядноўвае ўсю навукова-дасьледчую працу на Беларусі.

Цэнтральнае Краяведчае Бюро пры Інбелкульце шырака разгарнула дасьледчыя працы на мясцох праз свае краяведчыя таварыствы і гурткі.

Балотная станцыя вядзе вывучэньне прыроды й культуры на Беларусі.

На беларускую мову пераведзена дзелаводзтва канцылярый дзяржаўных і грамадзкіх устаноў.

### Гістарычныя помнікі Беларусі.

Тэрыторыя Беларусі з даўніх часоў служыць арэнаю, дзе адбываюцца вялікія здарэньні з гісторыі чалавецтва. З гэтай прычыны тут захавалася шмат помнікаў як па гісторыі наогул, так і па гісторыі культуры.

Перш за ўсё Беларусь прарэзваюць галоўныя шляхі, якія некалі зьвязвалі старадаўні Ўсход з Захадам і Бальтыцкае мора з Чорнаморскім басэйнам. Вытокі Волгі, Дняпра і Заходняй Дзьвіны, а таксама верхняе цячэньне Дняпра, З. Дзьвіны і Нёмна з іх прытокамі цесна сходзяцца між сабою і складаюць густую сетку водных шляхоў зносін, з астаткамі старадаўніх селішч і гарадзішч, волахаў і перагонаў. Лепшым паказчыкам старадаўніх селішч зьяўляецца Новы-Быхаў на правым беразе Дняпра, дзе вельмі добра выяўлены ўсе пэрыоды як да-славянскай, так і славянскай культуры. Узоры Н.-Быхаўскай культуры — крамнёвыя й каменныя арудзьдзі, хаўтурныя урны, прыгожа аздобленая кераміка, медзь і жалеза — маюцца ў Менскім Дзяржаўным Музэі.

Славянскі пэрыод *курганнай культуры* з гарадзішчамі, магільнікамі і шляхамі зносін выразна прадстаўлены: 1) у ваколіцах г. Менску, 2) па гістарычнай рэчцы Пясчанцы, каля Прапойску і 3) у раёне Ушацкага азёрнага басэйну. Узоры дадзенай культуры, кераміка і прадметы хатняга быту й аздабленьняў таксама маюцца ў Дзяржаўным музэі.

М. Друцк, на р. Друці, у старадаўнасьці меў кірмаш, на якім прадаваліся рабы й нявольнікі.

М. Жлобін (старадаўні Злобін) у сярэднявяковы пэрыод быў пунктам, дзе зьбіраліся беларускія сялянскія рэволюцыянэры — бунтары і разам з запарожцамі вялі сялянскія паўстаньні супроць сваіх прыгнятацеляў.

У в. Лясной, каля Прапойску, была зьнішчана швэцкая армія Левэнгаупта ў 1708 г.

У в. Студзенкі, каля Барысаву, Наполеон I пераправіў цераз Бярэзіну астаткі сваёй арміі пры адступленьні з Масквы.

У Менску захоўваецца дамок, дзе адбываўся першы зьезд Расійскай С.-Д. Р. партыі (бальшавікоў). Там-жа, на плошчы Віленскага вокзалу, вядомы пагромшчык генэрал Курлоў расстраляў рабочых у 1905 г.

У Полацку захаваліся помнікі першага на Беларусі каменна-будаўніцтва, з старадаўнімі фрэскамі і росьпісьсю XI—XII ст.

Старадаўнія гарады: Полацак, Віцебск, Ворша, Магілеў, Слуцак, Менск і іншыя маюць шмат помнікаў архітэктуры сярэднявяковага пэрыоду.

**І. А. Сербаў.**



# Купаньне, як крыніца здароўя

Наша маладая Беларуская Рэспубліка раскінулася на соткі кілёмэтраў і на поўнач, і на поўдзень, і на ўсход. Шмат рэчак і азёр пакрылі нашы лагчыны, нашы нізіны.

Рэгулярным купаньнем у нашых рэчках і азёрах магчыма дасягнуць добрых вынікаў у замацненьні організму. Наш клімат, клімат лагчын і нізін, нясталы. Ён цалкам залежыць ад географічнай шырыні мясцовасьці, тэмпэратуры і вільготнасьці паветра. Усё гэта нам, беларусам, трэба мець на ўвазе па тэй прычыне, што добрых сонечных цёплых дзён мала ў нас і нам ня трэба ўпушчаць аніводнага дня для купаньня. Купаньне ў рэках дзейнічае на нашу скуру тэмпэратурным шляхам, і фізыолёгічнае дзеяньне залежыць ад працягу купаньня.



Праз скуру вада рэчак дзейнічае на крываносную сыстэму: а) павялічвае цыркуляцыю і акісьленьне крыві, б) павялічвае ўзбуджэньне крыватворных органаў. Вада рэчак узбуджае дзеяньне нэрвовых клетак; яна таксама паляпшае абмен матэрый у організьме, дапамагаючы падвышэньню апэтыту, гармованьню організму.

Трэба памятаць, што:

1) для пачатку купаньня павінна быць тэмпэратура вады $+16^0$,

2) віханьне ранічнай і вячэрняй тэмпэратуры вады даходзіць да $4^0$-$7^0$, ляпей усяго купацца ад 2-4 гадз. папалудні праз дзьве гадзіны пасьля абеду, калі сонца знаходзіцца досыць высака,

3) перад купаньнем не ахаладжацца, а хутчэй трэба акунуцца ў ваду,

4) трэба купацца абавязкова голым,

5) у вадзе трэба ці плаваць, ці рабіць расьціраньне ўсяго цела, а не стаяць на адным месцы,

6) у вадзе не заставацца звыш 10-20 хвілін і

7) пасьля вады трэба абціраццa.

Купаньне прыносіць вялікую карысьць:

1) малакроўным,

2) тлустым асобам (пры купаньні адбываецца згараньне тлустасьці ў тлустых асоб),

3) нэрвовым і псыхічнахворым асобам.

Аднак, трэба ведаць, што пры купаньні ў рэчках зьмяншаецца пульс і зьніжаецца тэмпэратура цела, а таму купацца нельга:

1) тым, у каго баліць сэрца,

2) тым, хто хварэе раматусам,

3) тым, у каго занадта зморaны організм,

4) тым, хто мае ўхіл да крывацёкаў (асабліва сухотнікам),

5) тым, у каго буйнае ўзбуджэньне нэрвовай сыстэмы.

Старым людзям у вадзе заставацца звыш 5-10 хвілін нельга.

Такім чынам, той, хто жадае загартаваць сваю скуру, цэла, нэрвы, карыстаючыся вышэйвызначанымі парадамі, павінен купацца найчасьцей.

**Доктар Е. Калітоўскі.**

# Што чытаць

Зараз наша вясковая моладзь—ня тая моладзь, якая была раней. Яна цяпер усім цікавіцца, у яе шмат паўстае пытаньняў, на якія часамі няма каму даць ёй здавальняючыя адказы, гэтыя пытаньні моладзь хоча разьвязаць сама пры дапамозе кнігі. Але без кіраўніцтва яна ня ведае, дзе можна знайсьці адказ на тое ці іншае пытаньне—якую прачытаць кнігу.

Асабліва шмат незразумелых пытаньняў вынікае ў моладзі адносна сьветабудовы, як стварыўся сьвет, што ўяўляе з сябе нашая плянэта—зямля, сонца, месяц, зоры і іншае. Вось, каб больш-менш пазнаёміць чытача з такімі зьявамі, можна рэкомэндаваць дзеля гэтага *кніжку В. Лункевіча—„Неба й Зоры“* з сялянскай бібліотэчкі Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, 1925 году. Дадзеная кніжка напісана лёгкаю беларускаю моваю, зразумелаю для вясковага чытача, налічвае 16 маленькіх лісткоў і яе можна зараз дастаць у вясковых бібліотэчках або нават і купіць, бо каштуе яна 10 кап. Маючы такі нявялічкі разьмер, яна ўсё-ж дасьць адказы на некаторыя пытаньні, калі толькі яе ўважліва прачытаць.

Перш за ўсё чытач тут знойдзе якраз, ад чаго бываюць зацьменьні сонца й месяца, аб пахаджэньні зямлі і сонца, месяца і г. д., якая зямля была раней і якая цяпер. Чытач даведаецца, што ёсьць ня толькі сьвет на зямлі, а што ёсьць плянэты, падобныя на нашу зямлю і на якіх, таксама, магчыма ёсьць жыцьцё. Далей чытач пазнае, што гэтыя малюсенькія зоркі, якія мы бачым уначы простым вокам, ёсьць таксама целы, большыя ў шмат разоў за зямлю, але на далёкай ад нас адлегласьці. Чытач тут знойдзе адказ і на тое, што гэта за зоркі з хвастамі, комэты, якія пужаюць несьвядомых людзей сваім паяўленьнем. Наогул, калі чытач уважліва прачытае гэтую кніжку, то шмат чаго, што яму было раней незразумелым, стане зразумелым. У дабавак да гэтага, у кніжцы ёсьць і малюнкі, якія таксама часткова дапамогуць разабрацца ў пытаньнях чытачу.

**Т. Ц.**

# Шашкі № 3.

**Пад рэдакцыяй В. Судніка.**

У мінулай гутарцы мы казалі, што кожны ход шашкі, кожнае зьняцьце шашкі з дашкі магчыма запісаць на паперы.

Дзеля гэтага пішуць сьпярша поле (клетку), на якім знаходзілася шашка да ходу (альбо ўзяцьця), а затым пішуць назву поля, на якое ставіцца шашка пасьля ходу (альбо ўзяцьця).

Дзеля прыкладу разгледзім дыяграму № 3, на якой знаходзіцца белая і чорная шашкі.

**Дыяграма № 3.**




Паглядзім, як запішаца ход белай шашкі.

Гэтая шашка знаходзіцца на ўздоўжнай (простастаўнай) рысцы b і на 4-ай папярэчнай (паземнай). Адгэтуль клетка, на якой знаходзіцца гэтая шашка, запісваецца—b4, а выгаварваецца **бэ чатыры** альбо **бэ чацьвертае**; гэтак сама клетка, на якой знаходзіцца чорная шашка, запісваецца е7.

Як-жа запісаць хады гэтых шашак?

З першай нашай гутаркі мы ведаем, што шашкі (ня дамкі) могуць хадзіць выключна ўпярод, адгэтуль шашка b4 можа зайсьці толькі на поле a5 альбо c5.

На грунце вышэйсказанага правіла першы ход шашкі запішацца гэтак: b4—a5, а другі—b4—c5.

Гэтак сама ходы чорнай шашкі е7—запішуцца так: е7—d6 і е7—f6.

**Пра дэбюты.**

Азнаёміўшыся з грунтоўнымі правіламі шашачнай гульні, пяройдзем цяпер да больш складанага пытаньня: як трэба пачынаць партыю, як трэба разьвіваць шашкі, каб забясьпечыць сабе выйгрыш.

Практыка шашачнай гульні апрацавала цэлы шэраг пачатковых ходаў, якія забясьпечваюць хуткае і правільнае разьвіцьцё яе (гульні).

Па характары пачатковых ходаў шашачная гульня раскладаецца на цэлы шэраг **пачаткаў альбо дэбютаў**.

Дэбютам у шашачнай гульні завецца пачатак партыі, ці першыя хады, дапамагаючыя разьвіцьцю гульні.

Тэорыя дэбютаў разглядае любыя пачатковыя хады; даводзячы слабасьць адных і перавагу другіх, тэорыя навучае правільна разьвіваць гульню, г. зн. разьмяшчаць шашкі найвыгаднейшым чынам.

Дзеля таго, каб навучыцца гуляць у шашкі, неабходна пазнаёміцца з найбольш выкарыстоўваемымі пачатковымі хадамі партыі (дэбютамі), а гэтак сама і канчакамі гульняў.

Але найбольшую цяжкасьць для вывучэньня выяўляюць дэбюты, да азнаямленьня з якімі пяройдзем у чарговай гутарцы.

# Наша перапіска з супрацоўнікамі



**Зубу.**—Верш „Вясна ў вёсцы“—звычайная проза, ня пойдзе.

**Ал. Кулакоўскаму.**—Верш „Жыцьцё моладзі нашай вёскі“ ня пойдзе. Такія пытаньні трэба асьвятляць у друку праз допісы, а не праз няўдалыя вершы.

**Анатолю Кулікоўскаму**—Вершы „Вясна“ і „Лета“ ня пойдуць. Раней, чымсь пісаць вершы, трэба быць граматным. Вучыся грамаце—вось што можа параіць табе „Маладыя Араты“.

**А. Салодкаму.** Усё тое, што пасылаецца нашымі супрацоўнікамі ў рэдакцыю, ня гіне, і дарэмна ты кажаш пра гэта. Рэдакцыя зьнішчае матэрыялы пасьля ўважлівага перагляду толькі ў тым выпадку, калі яны да друку не падыходзяць.

Пра лёс надасланых табою вершаў дадзен адказ у № 3 „Мал. Ар.“ Вершы твае „Ясны месяц“ і „Вёска“ атрыманы, але друкавацца ня будуць. Верш „Вёска“—слабы. Верш „Ясны месяц“—з тэхнічнага боку здавальняючы, але з боку зьместу занадта індывідуальны:

Замірала душа ад каханьня,
Усё шчасьце было для мяне...
Не хацеў-бы нічога, ні званьня,
Каб яна... засталась толькі мне...

І далей пішаш:

Час ішоў... Ня збылося, як думаў...
Наляцелі, на жаль, каршуны,
І па згодзе бацькоў, разам з кумам,
Адабралі дзяўчынку яны...

Нічога, браток, ня зробіш, дарэмна будзе тут і лірыку разводзіць.

Рэдактары: { Іл. Барашка.
{ Д. Ратнэр.

Менск, 1-я дзярж. друк. Зак. № 2584. У ліку 1.100 экз. Галоўлітбел № 18140.

# Пра Кандрата і Ігната, што кахалі „гар“ заўзята

„Ну і юха, што за юха
Гэты Петрыкаў Ігнат“,
Пачасаўшы каля вуха,
Кажа Хведару Кандрат.

„Зарабіў ён самагонкі,
Падла, ўчора з поўдзяжы,
Пах ідзе з яе, брат, тонкі,
Проста цуда, хоць ліжы.

І узаўтра чуць сьвітацьме
Ён бадай што будзе гнаць,
А я мысьлю, калі гнацьме,—
Трэба-ж будзе паспытаць“.

І, сабраўшыся з усходам,
Пруць к Ігнату ў агарод,
Ажно бачаць, што ужо там
Людзей цэлы карагод.

Адзін дуньдзіць каля плоту,
Другі смокча з чарпака,
Трэці, выпіўшы ў ахвоту,
Вытылінкваў драпака.

Стрэў Ігнат гасьцей, як трэба,
Быццам родненькіх якіх,
І, прынёсшы сала з хлебам,
Частаваць стаў „гар‘ю“ іх.

Кандрат хлопец быў старэнны,
З пляшкай „гары“ ён ня спаў;
Расшпіліўшы пас раменны,
Яе ў пуза наліваў.

Ды і Хведар быў кілішку
Рад, як кожны з лайдакоў,
Ліў бяз меры „гар“ у кішку,
Быццам квас ад буракоў.

Аж Ігнату шкода стала
Дый засердзіўся й Пятрок
І, схваціўшы рэштку сала,
З самагонкай ў хату ўцёк.

Абхапіла злосьць Кандрата,
Што Пятрок так нарабіў.
— Эх, ты, падла! эх, брыда ты,—
Ён скрозь зубы працадзіў.

І ушчаў з Ігнатам сварку,
Як смала, к яму прыстаў,
Той ня выцерпеў: па карку
Кулаком апаразаў.

—Ды ты гэтак?! Пазваў ў госьці
А цяпер стаў мяне біць?—
Закрычаў Кандрат са злосьці
І дай воду ў брагу ліць.

Паднялась тут завіруха,
Ажно Хведар быў ня рад,
Грэў Ігнат Кандрату ў вуха,
А Кандрат яму назад.

Даў, нарэшце, Кандрат цягу
(Быў слабейшы, бачыш, ён),
А Ігнат, каб сагнаць смагу,
Галавешкай—бух ўздагон.

Галавешка паляцела
Не ў Кандрата—на страху,
Страха ўраз-жа загарэлась,
Быццам сернікі ў духу.

А Ігнат стаў ладзіць „бровар“,
Ў кацёл брагу падліваць.
Ажно чуе крык—ня гоман:
„Ігнат сенечкі гарацы!“

Ён туды. Ажно напрасна,
Ня ўтушыць яму пажар.
Эх, ты, вёска ты няшчасна,
Колькі будзе тут ахвяр!

Ігнат енчыць ля пажару,
З мазгавешкі й хмель прапаў.
А тымчасам аж за хмару
З дымам скарб павандраваў.

І зьлізаў агонь будынкі.
Вінаваты тут Ігнат,
Што няма хлява ў скацінкі,
А у дзетак няма хат.

І ў дадатак скажу, браце,
Каб з пажарамі ня знацца,
Самагонку кіньце гнаці,
А газэту лепш чытайце.

**Язэп Сукала.**

---

# ЗЬМЕСТ.




# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА
НА НАСТУПНЫЯ ПЭРЫОДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ
ВЫДАВЕЦТВА
## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
ДА КАНЦА 1926 ГОДУ

## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
ГАЗЭТА

**Орган ЦК ЛКСМБ і Менскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.**

Выходзіць тры разы на тыдзень. Дае кіраўнічы матэрыял па пытаньнях комсамолу, асьвятляе жыцьцё гораду і вёскі, зьмяшчае фэльетоны з комсамольскага жыцьця, апошнія навіны са ўсяго сьвету, багата ілюструецца.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц 25 кап. На 6 мес. 1 р. 50 к.
На 3 м-цы 75 кап. На 1 год 3 р. — к.

**Гарантыруецца акуратная дасылка ва ўсе гарады і вёскі.**

## ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

## ЮНГЕР АРБЭЙТЭР
ГАЗЭТА

**яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка.**
**Орган Яўрэйскай Сэкцыі ЦК ЛКСМБ**

На сваіх старонках асьвятляе жыцьцё яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка, налічвае вялікі лік уласных дапісчыкаў, зьмяшчае на сваіх старонках кіраўнічы матэрыял. Выходзіць штотыдзень.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц 15 кап. На 6 мес. — р. 90 к.
На 3 м-цы 45 кап. На 1 год 1 р. 80 к.

**Яўрэйская моладзь павінна чытаць „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“.**

## ЦІ ЧЫТАЕЦЕ

ДВУХТЫДНЁВУЮ ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

# „МАЛАДЫ АРАТЫ“

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб політыцы. Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“— праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—дае парады сялянскай моладзі, у каго вывучыцца, зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—вядзе барацьбу за новую вёску, змагаецца з усімі дрэн. бакамі жыцьця вёскі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—для сялянскай моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаныя з працаю вёскі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена“, так і інш.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ з дасылкаю да хаты.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| на 1 месяц | 15 к. | на 6 месяц. | 90 к. |
| на 3 месяцы | 45 к. | на 1 год | 1 р. 80 к. |

Падпіска на ўсе выданьні прымаецца ў Менску—канторай выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, на мясцох: вылучанымі ўпоўнаважнымі друку пры кожнай комсамольскай ячэйцы, агентамі выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, а таксама ўсімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі

**АДРАС РЭДАКЦЫІ ЎСІХ ПАМЯНЁНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ:**

Менск, Комсамольская, 25. ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

